**БУГ У АГНІ**




На сёмы або на восьмы дзень вайны гераічная абарона надбужных дотаў закончылася. Без вады і ежы, без боепрыпасаў, пад пастаянным абстрэлам, у агні і газах — хто змог бы даўжэй устаяць? Не пакінулі яны ані вінтовак, ані кулямётаў, пакуль змаглі ўтрымаць іх у руках, не аставілі самавольна сваіх баявых пастоў, пакуль да канца не выканалі свой воінскі абавязак...

Гэты перыяд — найцяжэйшы ў цэлым жыцці Пятра Плаксея — ён успамінае так:

*„Прывезлі нас на станцыю Сямяцічы і выгрузілі на нейкім цэментным складзе, але там цэменту ўжо не было...“*

Мясцовыя людзі, дабаўлю ад сябе, гэтае месца яшчэ сёння называюць смалярняй. У даваенны час, да 1939 года, там выраблялі папу, а ў час савецкай улады сапраўды ў гэтай „смалярні“ памяшчаўся склад будаўнічых матэрыялаў, неабходных для пабудовы надбужных абаронных умацаванняў. Іх прывозілі здалёк, кажуць, што недзе аж з Урала. Гэты склад гітлераўцы пераўтварылі ў часовы канцэнтрацыйны лагер, куды зганялі не толькі вайскоўцаў, але і ўсіх мужчын з навакольных вёсак, аб чым ужо неаднойчы ўспаміналі героі маіх нарысаў.

*„...не памятаю, колькі часу знаходзіліся мы ў гэтым лагеры,* — піша Пятро Плаксей. — *Забыў таксама, якога дня туды нас загналі: 28 ці 29 чэрвеня... Затое добра памятаю, што аднойчы падагналі на станцыю таварныя вагоны і нас, быццам быдла, пагналі грузіць на поезд...“*

*„...стаяла невыносл́івая гарачыня,* — успамінае Пятро Плаксей. — *А тут ані вады, ані прадуктаў. Хто не вытрымаў і абсунуўся на падлогу, таго і... затапталі... Даруйце... не магу ўспамінаць...“*

І забыць гэта цяжка, нават зусім немагчыма, бо пастаянна перад вачыма імчыцца гэты цягнік, як нейкі пякельны прывід, што ўсё яшчэ стукоча па рэйках, але галасней ад стукату раздаюцца енкі і праклёны людзей... Іх просьбы аб дапамозе, аб памілаванні... Не, гэтага не забыць! Чуе іх і бачыць Пятро Плаксей і моўчкі паўтарае: *„Што я мог? Што я мог? То ж рукой варухнуць не было як...“*

І гэта праўда, і ён аб гэтым ведае, але асадак горычы нейкай віны, што бачыў смерць сваіх баявых сяброў і не мог у нічым ім дапамагчы, гэтае пачуццё, быццам цень, спадарожнічае яму доўгія гады, вяртаецца змрочнымі снамі, адклікаецца нечаканым, балючым успамінам... І таму пра гэты перыяд свайго жыцця Пятру Плаксею найцяжэй расказваць.

*„...Гэта быў нейкі неймаверны кашмар... проста жудасць... І я пачынаў ужо траціць свядомасць, і не памятаю, колькі часу і як далёка нас завезлі... Цягнік спыніўся ля нейкай замкавай сцяны і там пачалі нас выганяць з вагонаў. Хто сам не саскочыў, або спазніўся, бо не даваў рады, таго канваіры проста расстрэльвалі на месцы... Зноў апынуліся мы на сонцы. Нас уладкавалі ў калону. Піць хацелася яшчэ болей, проста невыносліва. Але хто, убачыўшы нейкую лужыну ці ручаёк, асмельваўся ў адчаі выскачыць з калоны, каб зачарпнуць вады, таму гітлераўцы адразу пасылалі кулю...“*

І зноў перад вачыма ўзнікаюць гэтыя, найчасцей незнаёмыя твары, якія ў перадсмяротных дрыготках аставаліся на тым жа ліпеньскім шляху, а калона зморaных і галодных сярод пылу і сонечнай спёкі цягнулася далей. На рэдкіх перапынках, калі дазволена было на хвіліну прысесці, людзі прагна кідаліся на запыленую траву, каб хаця крыху пачуць на вуснах асалоду яе горкага соку.

І зноў наступала гаркл́івая каманда: *„Пад'ём!“*, і зноў гэты пякельны марш, значаны, быццам верставымі стаўбамі, трупамі тых, каму ўжо не хапала сіл... І ўспамінаць гэту жудасць зусім неахвота, і таму Пятро Плаксей яшчэ раз вяртаецца думкай да тых дзён, якія правёў у доце сярод баявых сяброў.

(Працяг на стар. 6)




# ХАЙ ЗНАЮЦЬ

Ох ты, „Ніва“, родненькая скарбонка нашых думак! У сваіх цесных палетках змяшчаеш столькі рознабаковасці. Прачытаўшы кожны твой нумар, узмацняешся ў аптымізме. Нашы продкі звалі сябе „тутэйшымі“ і не ведалі, што іх „простая“ мова ёсць мовай беларускай. Сусветныя перамены пусцілі і нас на новы шлях. Развіваецца родная культура, мова. Наганяем упушчанае.

Натуральнай з'явай было і ўзнікненне крытыкі, палемікі, спрэчак. Гэта ж доказ нашай спеласці. Хоць з гэтых сварак іншыя выходзяць, бы абскубаныя скупой бабай гускі (напрыклад, Дзядзька Квас), не шкодзіць, гэта ж заканамернасць, як не кажы. Таму не магу ўстрымацца, каб не кранць Э. Вайсковіча, які на заклік У. Сідарука шукаць новых форм, кажа: „Рабі тое, на што прызначаны“. Стаў карэспандэнтам, дык пішы весткі з ваколіцы і не рыпайся.

Ці ў такой філасофіі не дрэмле апатыя прыгнечанага стагоддзямі беларуса, які пагадзіўся са сваім лёсам? Не па-сучаснаму. Не сунь носа, куды не трэба. Не чакай большага. Не згодны я з табой, калега. Не туды гнеш. Не ўдасца з нас зрабіць салдат Мікалаеўскіх, галовы якіх (паводле пануючай думкі) былі здольны толькі шапкі насіць і паміраць за цара. Кастрычнік паказаў, што народныя масы вылучаюць выдатных палкаводцаў. А дапушчаны да навукі наш брат, просталюдзін, выявіў здольнасці ва ўсіх напрамках. Тут і наш родны куточак (у цэнтры Еўропы) паказаў сябе годна. Даў свету (мо і не цэламу) не абы-якіх творцаў. Аб гэтым я даведаўся (як і кожны чытач „Нівы“) ад Піліпа Саскага. „Белавежцы“, аказваецца, выводзяць нашу тупаватую эпоху з адсталасці. І як нашы дзяды не разумелі цудоўных дасягненняў, якія стварала вынаходства радыёвяшчання, так і для нас сучасная паэзія — цёмная магія. Што ж, пераканаў мяне Піліп Саскі, і я другім вокам глянуў на „белавежцаў“, і даў слова больш не кранаць іх. Калі прыгадаў усё гэта, то выключна дзеля Э. Вайсковіча: каб ён прадумаў сваё veto, мо дагледзіць у ім памылку, падобную да маёй („белавежскай“).

У. Сідарук мае рацыю. Нельга спыняць здольных карэспандэнтаў у развіцці іх таленту. Зрэшты, лёд прабіты. На літстаронцы ў новай якасці выступіў В. Петручук. Было і яго фота. Узіраючыся ў Петручукоў позірк, можна было прачытаць: „Хлопцы, сунь за мною!“

Шырэй крок, гайда за межы,
Папаўняйма „Белавежу“!

І варта адклікнуцца. „Ніваўскім“ журналістам цесната не будзе. Пара ім узяцца за аповесці ды раманы, бо аж сорам, каб у такой багатай талентамі „Белавежы“ так слабавата выглядала справа ў гэтым жанры.

Няма бяды, што адышлі яцвяжкі, узбагацімся свежымі, маладымі сіламі. Бо перад кожным карэспандэнтам „Нівы“ заззяла перспектыва. Дарма Э. Вайсковіч турбуецца, што ў „Ніве“ замала месца. Няма бяды. А як дасць Бог бяду, то й грошы знайду, кажа прыказка. То клопат рэдакцыі, а яна сабе дасць раду. Пішыце толькі, хлопчыкі. Гэта добра ўсвядоміў наш паважаны калега В. Петручук. Віншую, Васілёк! Трымайся! Дакажы, браток, што гэта мы. Хай знаюць нашых.

**Дзядзька Квас**





**У нашым аб'ектыве.** Старая Гайнаўка. Фота Я. Целушэцкага.

прапанову, каб пры бальніцы ў Крынках прыбудаваць корпус на 15-20 ложкаў, дзе самотныя знядужаныя людзі дажывалі б свой век. Прасцей, даспявалі б пад наглядам тых самых лекараў і медсёстраў. Спасылаўся доктар на абяцаную вялікую дапамогу навакольнага насельніцтва і дзяржаўных устаноў ПГРу і СКРу. На жаль, гэтая каштоўная, на мой погляд, ініцыятыва засталася, бы тое рэха, якое расплылося і загінула. А шкада, што гэтай вялікай прапановай ніхто не пацікавіўся. Здзейсненая гэтая справа намнога аблегчыла б цярпенне апошніх дзён старых людзей.

Фінансавыя магчымасці служб сацыяльнай апекі моцна абмежаваныя. Галоўны фонд — гэта дзяржаўная датацыя, рэшта — дары розных устаноў і паасобных грамадзян. Робіцца ў гэтай галіне многа і будзе рабіцца яшчэ больш, бо сацыяльная апека ахоплівае штораз большы круг насельніцтва. Усё гэта павінна толькі цешыць. На жаль, стары чалавек баіцца заўтрашняга дня, робіцца скупы і, хоць ён атрымлівае столькі, што можа поўнасцю задаволіць свае скромныя патрэбы, ён усё ж дакучае і дакучае мясцоваму сацыяльнаму апекуну, каб той стараўся для яго большыя грошы. Толькі грошы і грошы. Нічога іншага. Цяжка выясніць старому чалавеку, неаднойчы нават псіхічна непаўнацэннаму, што каб даць, трэба аднекуль узяць, што такіх, як ён, многа.

І вось памірае такі падапечны. Жыў ён ашчадна, нават шкадаваў лепш з'есці, можа спадзяваўся пакінуць на пахаванне крыху ашчаднасцей. На жаль, выходзіць інакш. Ашчаднасці так схаваныя, што іх ніхто не знойдзе або пападаюць у рукі спрытнага, які першы ўбачыў памершага.

Тут я звяртаюся да гмінных служб сацыяльнай апекі. Калі ёсць мясцовы сацыяльны апякун, гмінная служба павінна, вырашаючы даць камусьці ці павысіць засілак або аднаразовую дапамогу, кансультавацца з мясцовым сацыяльным апекуном. Ён найлепш ведае патрэбы сваіх людзей.

І яшчэ пару слоў. Многа пішацца і гаворыцца сёння пра культуру маладога пакалення. У вялікай ступені культура гэта выражаецца ў адносінах маладых людзей да старых. Дапамагчы інваліду, сляпому з белай палачкай перайсці вуліцу, даць старому ў аўтобусе месца, паднесці старому чалавеку цяжкі багаж — гэта не праяўленне літасці. Гэта абавязак культурнага маладога чалавека. Гэта заплата за ўсё тое, што старыя людзі стварылі. На жаль, як жа рэдка нешта падобнае сёння назіраем. Малады чалавек павінен заўсёды помніць пра тое, што і ён будзе старым, і, як ён сёння адносіцца да старых людзей, такія адносіны будзе мець да самога сябе ў старасці.

**К. Пятэльскі**

(Працяг са стар. 1

# ТОЛЬКІ АДНО ПЫТАННЕ

рускія народныя фэсты, канцэрты і выступленні беларускіх калектываў. Узбагачаюцца фальклорныя зборы (ёсць багатыя запісы на старонках тыднёвіка „Ніва“, у беларускіх календарах, ёсць шматлікія магістэрскія працы на тэму мясцовага беларускага фальклору).

Ёсць дасягненні ў выдавецкай дзейнасці. Таварыства выдала 23 беларускія календары і 27 кніг. БГКТ згуртавала і стварыла магчымасці росту нашай інтэлігенцыі. У выніку маем і літаратурны рух, сотні аўтарскіх сустрэч, і навуковыя дасягненні. Выключна важнай справай з'яўляецца таксама рост зацікаўлення беларускай культурай у нашым грамадстве. Узрос напэўна ранг беларускай мовы.

Да недахопаў у дзейнасці Таварыства можна залічыць замалы кантакт БГКТ з народнымі мастакамі, разбярамі, ганчарамі, столярамі, ткачыхамі і ўмельцамі народнай вышыўкі і г.д. Неабходна больш працаваць у напрамку лепшай папулярызацыі беларускай мовы. Адчуваецца недахоп інструктараў для вядзення культурнай дзейнасці, інструктараў-спецыялістаў, якія вялі б харавыя і тэатральныя калектывы. Заўважаецца замала форм працы з дзецьмі. Шматлікія гурткі БГКТ не ўмеюць весці культурнай дзейнасці ў мясцовых **клубах і святліцах.**

З'езд, несумненна, будзе тым форумам, на якім дэлегаты і запрошаныя госці выступяць з цікавымі прапановамі адносна ўзбагачэння форм працы Таварыства. Скажуць пра патрэбы і магчымасці, якія выступаюць у тым ці іншым асяроддзі. Жадаю, каб IX з'езд быў актыўны і творчы, а яго пастановы трапныя і мабілізуючыя, а таксама рэальныя. Напэўна нававыбраныя ўлады Таварыства паслядоўна будуць рэалізаваць прынятыя з'ездам пастановы. Шматгадовая практыка дзейнасці БГКТ, яго дасягненні ў павышэнні культуры беларускага насельніцтва ў Польшчы, у пашырэнні яго грамадскай актыўнасці паказваюць на глыбокі сэнс існавання і дзейнасці БГКТ.

Запісаў **Я. Целушэцкі**

## Ці ведаеце, што...

...члены гуртка ЗСМП з прадпрыемства „Каро“ ў Гарадку перадалі Беластоцкаму дому малых дзяцей уласнаручна пашытую бялізну: 384 кашулькі і 167 пар штонікаў.

...у Сакольскай гміне існуе ўжо 120 спецыялістычных гаспадарак. Сяляне ў асноўным спецыялізуюцца ў гадоўлі малочнага быдла, свіней і авечак. Ёсць таксама 25 гаспадарак, якія заняліся вырошчваннем пасадачнай бульбы, фруктаў і агародніны.

